


Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# рэгіянальная газета

1 сакавіка 2002 года

№ 9 (358)
Выходзіць па пятніцах

ТУ плюс

**Навіны рэгіёна**

## Падарункі з Амерыкі

**СМАРГОНЬ.** На мінулым тыдні ксёндз-пробашч касцёла святых Сымона і Алены ў Мінску **Уладзіслаў Завальнюк** перадаў 140 падарункаў для дзяцей работнікаў калгаса "Савецкая Беларусь". Гэта цацкі, якія сабралі амерыканскія дзеці. Яшчэ ксёндз перадаў старшыні калгаса **Вацлаву Мацкевічу** насенне морквы, капусты, буракоў, памідораў, кабачкоў. Яго бясплатна раздалі калгаснікам. Летась падобная акцыя праводзілася ў Смалявіцкім раёне. Лепш за ўсё ўрадзілі тады памідоры.

**Тарэса КУМІШЧА.**

## Хавайце грошы ад вучняў

**МЯДЗЕЛ.** Каля двух месяцаў знікалі грошы з пакінутых у кабінетах сумачак настаўнікаў Будслаўскай школы. У рэшце рэшт высветлілася, што прысвойвала іх вучаніца 10 класа. Устанавілі, хто гэтым займаецца, пасля таго, як дзяўчына вырашыла пагаспадарыць у суседняй Яцкавіцкай школе. На вучаніцу заведзеная крымінальная справа.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

## «Замарозіла» гарэлка

**АСТРАВЕЦ.** Без пальцаў на абедзвюх нагах застаўся 50-гадовы жыхар Астравеччыны. Мясцовыя ўрачы іх ампутавалі, каб выратаваць жыццё пацыенту.

Прычынай стала абмаражэнне ног, атрыманае ва ўласным доме. Некалькі дзён вясковец, які звязаўся з "саракаградуснай", не выходзіў з дому і не абаграваў жытло. Калі скончылася гарэлка, адчуў нядобрае і звярнуўся да ўрачоў.

**Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.**

## Пакаштавалі салдацкай кашы

**СМАРГОНЬ.** 23 лютага тут у вайсковай часці прайшоў дзень адчыненых дзвярэй. Вайскоўцы пазнаёмілі бацькоў салдат з умовамі службы іх дзяцей.

Камандзір часці маёр **Аляксандр Мацкевіч** у сваім выступленні перад бацькамі расказаў пра стан часці і змяненні ва ўзброеных сілах, пагаварыў канкрэтна пра кожнага ваеннаслужачага. Бацькам паказалі казарму, сталовую і рабочыя месцы сыноў. Госці пакаштавалі сапраўдную салдацкую кашу. Пасля чаго ім далі пагутарыць са сваімі дзецьмі.

**Ірына ЯСІНСКАЯ.**

## Жонкі дыпламатаў у школе-інтэрнаце

**ВАЛОЖЫН.** На мінулым тыдні Валожынскую школу-інтэрнат для дзяцей-сірот наведалі жонкі паслоў Расіі і Арменіі **Эльвіра Даўгова** і **Ніна Аруцюнян**. Для выхаванцаў яны прывезлі дываны і ласункі.

Усё пачалося год таму, калі ў інтэрнат прыехала цэлая група жонак паслоў, якія з таго часу дамовіліся ўзяць шэфства над навучальнай установай. Разам з Э. Даўговай і Н. Аруцюнян прыязджала жонка міністра замежных спраў Беларусі **Галіна Хвастова**. Яна прыехала на сустрэчу з горадам свайго юнацтва. У школьныя гады Галіна разам з бацькамі 6 год жыла ў Валожыне.

**Наталля ШТЭЙНЕР.**



**Надвор'е на выхадныя**

Субота, 2 сакавіка

**Мінск**
-4°С (уначы)
2°С (удзень)



**Вільня**
-5°С (уначы)
1°С (удзень)



Нядзеля, 3 сакавіка

**Мінск**
-4°С (уначы)
0°С (удзень)



**Вільня**
-5°С (уначы)
0°С (удзень)



# Праехаць маршрут да канца

**МАЛАДЗЕЧНА. Мінчанін Валерый Расолька пачаў веламарафон "Зіма-2002" з нашага рэгіёна. 21 лютага ён пабываў на Мядзельшчыне і Вілейшчыне, а 22-га – на Маладзечаншчыне і Валожыншчыне.**

За 11 дзён Валерый Расолька плануе праехаць 2002 кіламетры па ўсіх шасці абласцях нашай краіны.

– Наколькі мне вядома, такіх веламерапрыемстваў у Беларусі раней не было. Я хачу паспрабаваць сябе ў зімовых умовах, калі можна чакаць любых сюрпрызаў ад надвор'я, – гаворыць Валерый Расолька. – Для мяне веласіпед – самы зручны транспарт для падарожжа.

У першы дзень веламарафону пайшоў снег. З'явіліся цяжкасці пасля першых 30 кіламетраў. Задубела адзенне, набраў вільгаць і веласіпед. Замест запланаваных 200 кіламетраў праехаў 123. Транспартны сродак патрабаваў дробнага рамонту. Калі спартсмен выязджаў з Вілейкі, адказаў пярэдні тормаз.

У Маладзечне Валерый заехаў у турклуб "Пілігрым" да свайго знаёмага – **Сяргея Бялкова**. Адрамантаваў веласіпед і паехаў далей. З сарака доларамі ў кішэні на ўсё.

– Гэта на ежу плюс "аварыйны" запас на непрадугледжаныя сітуацыі. Для мяне галоўнае – праехаць увесь маршрут да канца. Няхай я і не ўкладуся ў запланаваны тэрмін.

**Юрый КАРПІЦКІ.**



Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

**Даведка "РГ". Валерый Расолька. Нарадзіўся 16 верасня 1953 года ў Мінску. У 1975 годзе скончыў інстытут замежных моў. Кіраўнік клуба велападарожнікаў "Шворан".**

**Апытанне маладзечанцаў**

# Наколькі давяраеце еўра?



**Вольга Вечар, эканаміст:**
– Пакуль давяраю. А вось долару – менш.



**Сяргей Цеслік, навучэнец:**
– Я больш давяраю доларам. З імі працей. Усе разлічваюцца доларамі. Хто тут бегае з еўра?



**Ніна Балыш, пенсіянерка:**
– Я супраць долараў і еўра. Калі едзеш за мяжу, яны патрэбныя. Раней такога не было. З гэтымі грашыма жыць маладым, а нам – усё адно.



**Вера Лотыш, касір:**
– Я іх і не бачыла. Мяркую, што еўра могуць замяніць долары, але паступова.



**Валерый Цвяцінскі, начальнік цэха:**
– Пакуль я іх не бачыў. Вось калі Беларусь трапіць у Еўрасаюз, тады і буду давяраць. Што Штаты не зрабілі зброяй, яны зрабілі доларам. Ён сваю справу ўжо выканаў.



**Анатоль Камінскі, працуе ў музычным вучылішчы:**
– Да еўра я стаўлюся станоўча. Але ў руках яшчэ іх не трымаў. Калі Амерыка не падгадзіць, то будзе моцная валюта.

**Апытанне падрыхтавалі Вольга ПІЛІПЕНКА і Юрый КАРПІЦКІ.**

■ АНОНС

## 100 год Ядвізе Раздзялоўскай

**МАЛАДЗЕЧНА. Сёння спаўняецца 100 год з дня нараджэння беларускай і польскай мастачкі Ядвігі Раздзялоўскай (1902-1992). Нарадзілася і вучылася ў Польшчы, але большую частку свайго жыцця яна пражыла ў Маладзечне. Многія мастакі горада – яе вучні.**

1 сакавіка, а 15-й гадзіне ў сярэдняй агульнаадукацыйнай школе мастацтваў адкрыецца выстаўка твораў вучняў школы, прысвечаная юбілею. На наступны дзень а 15-й гадзіне пройдзе ўскладанне кветак да мемарыяльнай дошкі на доме па вуліцы Віленскай, дзе жыла мастачка. А праз гадзіну адкрыецца выстаўка твораў Ядвігі Раздзялоўскай.

Творы Я. Раздзялоўскай знаходзяцца ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі, Мінскім абласным краязнаўчым музеі, фондах Беларускага саюза мастакоў, Варшаўскім мастацкім музеі.

**Аддзел інфармацыі "РГ".**

■ ЮБІЛЕІ

## Цэнтру дзіцячай творчасці – 25 год

**МАЛАДЗЕЧНА. Учора Мінскі абласны цэнтр дзіцячай творчасці (ЦДТ) адзначыў сваё 25-годдзе.**

ЦДТ узнік на базе былога Дома піянераў. Сёння там працуе 96 гурткоў, у якіх займаюцца 1465 чалавек. Кожны гурток падрыхтаваў да свята сваю насценгазету. Таксама працуе выстаўка дзіцячай творчасці.

Дырэктар ЦДТ **Леанід Саўрыновіч** гаворыць, што з-за недастатковага фінансавання ў Цэнтры ёсць праблемы. Заробкі выплачваюцца ў тэрмін. Але, каб купіць матэрыялы для вырабаў, грошай няма.

— Салому самі нарыхтоўваем — сеем жыта. Бярэм адходы з прадпрыемстваў: фанеру з мэблевага цэнтра, футра – з фабрыкі цацак у Заслаўі. Астатняе купляем у магазінах.

Каб крыху зняць фінансавую праблему, можна перавесці частку гурткоў на платнае навучанне.

— Але дзе гарантыя, што іх будуць наведваць? І так у класах не густа, — зазначае Л. Саўрыновіч.



Фота Вольгі ПІЛІПЕНКІ.

**Мінскі абласны цэнтр дзіцячай творчасці. Іван Лескіць (злева) і Алег Шэлудзько (справа) на занятках у гуртку роспісу па дрэве.**

Але Цэнтру ёсць чым і ганарыцца. Хаця б тым, што 5 дзіцячых калектываў удастоеныя звання ўзорных.

На святкаванне юбілею запрасілі гасцей з Міністэрства адукацыі, Нацыянальнага цэнтра творчасці дзяцей і моладзі.

**Таццяна СЕМАШКЕВІЧ, Вольга ПІЛІПЕНКА.**

## Выстаўка краявідаў

**МЯДЗЕЛ. У мядзельскім музеі праходзіць выстава работ самадзейнага мастака з райцэнтра Сяргея Захарэвіча.**

Пачалася яна ў мужчынскае свята і будзе доўжыцца да жаночага. На выстаўцы, у асноўным, прадстаўленыя краявіды Мядзела і ваколіц.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

## Памерла Паліна Машэрава

**23 студзеня на 86–м годзе ў Мінску памерла Паліна Машэрава, удава Пятра Машэрава.**

У сярэдзіне 40–х Машэравы непрацяглы час жылі ў Вілейцы, затым – Маладзечне, дзе Пётр Машэраў узначальваў Вілейскі, а затым Маладзечанскі абком камсамола. Пахаваная Паліна Машэрава на Маскоўскіх могілках у Мінску побач з магілай мужа.

**Аддзел інфармацыі "РГ".**

## Новая страхоўка ў Літве

**З 1 сакавіка ў Літве ўводзіцца абавязковае страхаванне грамадзянскай адказнасці ўладальнікаў аўтамабіляў.**

За 15 дзён знаходжання ў гэтай краіне неабходна заплаціць 20 долараў ЗША, за тры месяцы – 54, за паўгода – 96, за год – 178 долараў.

**Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.**

## Папаўненне

**Маладзечанская раённая цэнтральная бібліятэка атрымала грант амерыканскай грамадскай арганізацыі ACDI/VOCA. Ён накіраваны на набыццё літаратуры па псіхалогіі, праве і культуралогіі.**

Набытыя даведнік "Современная психология", падручнікі па агульнай і ўзроставай псіхалогіі, кнігі з серыі "Классическая философская мысль", навукова-папулярныя кнігі па жаночай псіхалогіі.

Літаратура па праве прадстаўленая дапаможнікамі і падручнікамі выдавецтва "Маладзёжнае навуковае таварыства", юрыдычнымі слоўнікамі па праве і бізнесе.

Фонд раённай бібліятэкі папоўніўся двухтомным выданнем "Популярной художественной энциклопедии", энцыклапедычным выданнем "Искусство средних веков и Возрождения", "Популярной энциклопедией искусств", кнігамі з серый "История Древнего мира" і "История Средних веков".

**Аддзел інфармацыі "РГ".**

■ ПАРТРЭТ

## Аляксандр Саладуха:
## канцэрт памяці бацькі

**СМАРГОНЬ. 22 і 23 лютага тут даваў канцэрты Аляксандр Саладуха.**

**— Аляксандр, 22 лютага вы далі дабрачынны канцэрт у вайсковай часці. Якія ў вас уражанні пасля выступлення?**

— Мне вельмі спадабалася – такі цёплы прыём. Гэты канцэрт быў прысвечаны памяці майго бацькі. Я сам таксама былы вайсковец, капітан запасу. Пасля выступлення ў пагранічным атрадзе мы паехалі ў вучэбны атрад, дзе нас папарылі ў лазні і накармілі юшкай. Камандзір вучэбнага атрада **Генадзь Чарныш** запрасіў цяпер да сябе, і 28 мая, на Дзень пагранічніка, я збіраюся даць там свой канцэрт.

**— Вашае турнэ прысвечанае 15-годдзю творчай дзейнасці. Пасля Смаргоні якія гарады вы збіраецеся яшчэ наведаць?**

— 24 лютага ў нас канцэрт у Навагрудку, а 25 – у Гродне.

**— Ці ёсць такія гарады Беларусі, дзе вы наогул не былі?**

— Так, вядома, але я думаю, што калі-небудзь мы пабываем і там.

**— Аляксандр, 15 год творчасці – гэта для вас многа ці мала?**

— Можна сказаць, што гэта была размінка. Усё лепшае яшчэ наперадзе.

**— Першы канцэрт. Які ён быў?**

— Я гэты канцэрт памятаю добра. Гэта было ў Мінску ў сакавіку 1987 года, у рэстаране "Юбілейны". Тады я яшчэ спяваў песні з чужога рэпертуару. У тым жа годзе я стаў салістам аркестра пад кіраўніцтвам **Міхаіла Фінберга**.

**— Канцэрт атрымаўся – гэта калі...**

— Калі на апошняй песні глядач устае і пачынае мне падпяваць, тады я лічу, што канцэрт атрымаўся, тады я выступіў на "пяць". Я думаю, што сёння маё выступленне атрымалася. І наогул, у Смаргоні вельмі ўдзячны глядач.

**— У вас вельмі разнастайны рэпертуар – і любоўная лірыка, і рамансы, а цяпер з'явіліся народныя песні. Як вы падбіраеце песні для сябе?**

— У першую чаргу, гэта песні, якія закранаюць маю душу і сэрца. І калі атрымліваецца, што словы, музыка і гармонія супадаюць, то гэтая песня ўваходзіць у мой рэпертуар. Напэўна, з такой колькасці песень вылучаецца адна – любімая.

Не, мне падабаюцца ўсе мае песні, кожная з іх мне дарагая па-свойму. Але, напэўна, больш за ўсё, — песня на словы **Леаніда Татаранкі** і на музыку **Эдуарда Ханка** "Здравствуй, чужая милая". Гэтай песні ўжо дзесяць год, але глядач яе любіць, ведае і слухае да гэтага часу.

**Ірына ЯСІНСКАЯ.**

■ ВЫЖЫВАЕМ

## Без надзеі

**Без надзеі на нешта лепшае жывуць жыхары плошчы Міру ў Сасновым Бары пад Маладзечнам. 27 студзеня ў іх перасталі грэць батарэі. Больш за месяц, як да трыдыцыйнай сырасці тут дадаўся холад.**

Двухпавярховыя дамы на плошчы з прэтэнзійнай назвай пачалі тут засяляцца трыццаць год таму. Спачатку васьмікватэрны, праз два гады – на васемнаццаць кватэр. Пакуль была гарачая вада ды і плоскі дах не падцякаў – жыць можна было. Але пра гарачую ваду, якую адключылі яшчэ ў 1992 годзе, тут ужо і не згадваюць:

— Халодная бывае з перабоямі. Але як жыць без цяпла і ў сырых сценах, якія гатовы разваліцца? – пытаецца **Тамара Шчыпонікава**, жыхар адной са злашчасных двухпавярховак.

Хто б ні прыйшоў у госці да жыхароў кватэр на друхіх паверхах дамоў нумар 1 і 3 на плошчы Міру ў Сасновым Бары, хапаецца за галаў: і так можна жыць? Чорныя сцены, з якіх не паспяваеш саскрэбваць плесень. Аб тым, каб памяняць шпалеры на больш свежыя лепш і не думаць – выкінеш грошы. Мэбля адсоўваецца ад сценаў, матрасы ў першы ж пагодны дзень выносяцца каб праветрыць. Але дух цвілі і часовасці гэтага жытла застаецца. Ды і ў госці сюды амаль ніхто не ходзіць. Весялосці не прыбавіцца. Хіба што перад прэзідэнцкімі выбарамі, як кажа мясцовая жыхарка **Вера Кроман**, завітвалі агітатары за таго ці іншага, ды пабачыўшы ўсе, хуценька выслізгвалі з кватэр.

Вера Сямёнаўна Кроман засталася адна. Прыйшла працаваць звераводам у мясцовую зверагаспадарку ў 57–м. І ўсё жыццё тут адпрацавала. Дзяржава аддзячыла ёй толькі тым, што трынаццаць год таму вярнула ёй з арміі адзінага сына. У цынкавай труне:

— Што мне рабіць? На вуліцу няма чаго хадзіць, а дома няма як сядзець.

Толькі чакаць застаецца бабе Веры нечага лепшага.

У Тамары Шчыпонікавай, якая аддала зверагаспадарцы, на чыім балансе знаходзіцца жытло, усё сваё жыццё, таксама сыра і холадна. Не ратуе масляны электраабагравальнік. Ды каб жа здароўе было. Муж Міхаіл хворы на анкалогію. Жыве з адным лёгкім. І ніхто не паспагадае.

Двое маленькіх дзетак у сям'і Ракецкіх. Свеце – тры гады. У кватэры сыра, холадна, няма электрычнасці:

— Нас спачатку адключылі за няўплату, – кажа гаспадыня, – пасля я пагасіла запазычанасць, але святло немагчыма падключыць – вада цурком цячэ па правадах.

Тамара Шчыпонікава – староста невялікага пасёлка. Але ні для людзей, ні для сябе дабіцца праўды не можа. Яе добра ведалі ўсе дырэктары зверагаспадаркі, ведаюць у калідорах мясцовай улады. Прыходзіла на прыём да свайго дэпутата у парламенце – Вячаслава Кебіча. Той абяцаў памагчы. Адзіны з варыянтаў: перадача дома з баланса гаспадаркі ў распараджэнне раённай жыллёва–камунальнай гаспадаркі. Але ў раённым бюджэце і так дзірак хапае, каб з'яўлялася яшчэ адна.

Я тэлефаную да дырэктара зверагаспадаркі Рыгора Хаткевіча:

— Як людзям жыць?

— Няхай прыватызуюць сваё жыллё.

Але трэба быць адчайным, каб такое жыллё прыватызаваць.

З маім пытаннем аб адключэнні цяпла дырэктар не пагаджаецца і папраўляе:

— Не адключылі, а перасталі тапіць. З'явіцца магчымасць, тут жа затопім.

Магчымасць не з'явіцца. 27 лютага, калі мы размаўлялі, па словах дырэктара перад нафтабазай у іх заставалася запазычанасць на 8 мільёнаў. Пра што гаварыць?

**Рыгор Хаткевіч** кіруе зверагаспадаркай пару месяцаў. І вешаць на яго адказнасць за гісторыю, якая пачалася даўно – не варта. Хаця б таму, што смеласці хапіла стаць за стырно гаспадаркі, якая, хутчэй за ўсё, не мае светлай будучыні.

Пару кіламетраў ад Маладзечна. Сасновы Бор. Плошча Міру – ці то вуліца, ці то сапраўды плошча, дзе людзі пачынаюць некалі жыць, спадзеючыся на цяпло, ваду, шчасце...

**Аляксандр МАНЦЭВІЧ.**

## Ці жаночая справа – ваджэнне?

**МАЛАДЗЕЧНА. Жанчына за рулём ужо нікога не здзіўляе. Вось толькі мужчыны, як і раней, імкнуцца абагнаць або "падрэзаць" іх, каб даказаць, што ваджэнне – гэта мужчынская справа.**

Пра тое, як працуецца з прыгожай паловай чалавецтва на курсах па ваджэнні, расказвае старшы інспектар ДАІ **Валерый Лужынскі**.

— У нас кожны год вучыцца шмат жанчын. А вось пасля таго, як атрымаюць правы, яны ездзяць менш. Напэўна, мужы не дазваляюць. Увогуле, жанчыны – скрупулёзны народ, таму правілы вучаць лепш за мужчын, але з практыкай складаней. Вельмі хвалююцца, а калі памыляцца, вінавата гавораць: "Вой, я, напэўна, не тое зрабіла". Бывае, пры атрыманні дакументаў рукі дрыжаць.

Мы стараемся да ўсіх ставіцца аднолькава. Какецтва і абаяльнасці тут недастаткова. Ёсць інтрукцыі, якія патрабуюць руплівай падрыхтоўкі. Кожны засвоіць 29 гадзін ваджэння, 104 гадзіны тэорыі і правілаў аказання першай медыцынскай дапамогі.

Аказваецца, складаней працаваць з жанчынамі, якім за 45. Хоць яны і вывучаць правілы, але абавязкова правалацца на экзамене.

Здаралася, што здавалі па 3 разы. Калі і тут не атрымлівалася, ішлі на 7-гадзінныя курсы па ваджэнні. А вось у Вілейцы адна жанчына здавала 7 разоў. Гэта не азначае, што жанчыны горш вучацца. Некаторыя мужчыны, у якіх адабралі правы за парушэнні, на экзаменах не ведалі, як прыпаркавацца.

Валерый Лужынскі зазначае, што лягчэй працаваць з жанчынамі, якія ўжо ведаюць некаторыя элементы кіравання машынай. А лепш пачынаць вучыцца з 18 год: свяжэйшая галава, шмат жадання і ўвагі.

Пра тое, што жанчыны водзяць больш акуратна за мужчын, гавораць і колькасць ДТЗ за 2001 год. Летась усяго ў горадзе і раёне іх было 799. З удзелам жанчын – 34. Гэта крыху больш за 4 % ад агульнага.

А вось што думаюць пра жаночае ваджэнне абодва бакі:

**Сяргей Воўкаў**, ахоўнік:

— Жанчына за рулём – гэта небяспека. Калі трэба павярнуць налева, яны едуць направа. Ды яшчэ і педалі блытаюць.

**Ірына Чумак** педагог у дзіцячым садку:

— Мужчыны лічаць, што жанчына за рулём – гэта патэнцыяльны злачынца. Я ж мяркую, што у наш век хуткасцяў мы павінны кіраваць аўтамабілем, каб усюды паспець.

**Кацярына Пужэвіч**, медсястра:

— Калі жанчына водзіць, гэта добра. Чым мы горшыя за мужчын? Я сама вадзіцель, і любому дам фору.

**Рыгор Тытуш**, работнік аховы:

— Усё залежыць ад прафесійных навыкаў жанчыны. Але сваёй жонцы я не дазваляю вадзіць.

**Раман Дончанка**, беспрацоўны:

— Жанчына за рулём – гэта злачынца. Ды і рэакцыя ў іх запаволеная.

**Вольга ПІЛІПЕНКА.**

■ СПРАВЫ СМІ

# У свабоды слова няма альтэрнатывы

19 лютага на пасяджэнні Кансультатыўнага савета апазіцыйных палітычных партый прыняты зварот да міжнародных арганізацый "Аб невыкананні Рэспублікай Беларусь абавязацельстваў у галіне забеспячэння свабоды выяўлення меркаванняў". Гэты дакумент прадстаўлены ўдзельнікам парламенцкай сесіі Парламенцкай Асамблеі АБСЕ, якая адбылася 21-23 лютага.

Апошнім часам пытанне аб свабодзе выяўлення меркаванняў і, канкрэтна, аб сродках масавай інфармацыі набыло актуальнае гучанне ў якасці адной з першых умоў пачатку дэмакратызацыі дзяржаўнага і грамадскага жыцця Беларусі.




Мінск. Дом прэсы, дзе месцяцца, у асноўным, рэдакцыі дзяржаўных выданняў. Фота IREX/ProMedia.

І гэта невыпадкова. Сродкі масавай інфармацыі – гэта трыбуна грамадскага меркавання ў любой краіне, асабліва дэмакратычнай. У Беларусі асноўныя агульнанацыянальныя СМІ – часткова друкаваныя і цалкам электронныя – знаходзяцца ва ўласнасці дзяржавы.

Для сучаснай дэмакратычнай дзяржавы такое паняцце, як дзяржаўныя СМІ, даўно стала архаізмам. Для нас пакуль гэта нармальна. Шматлікія дзяржаўныя рэспубліканскія газеты, часопісы, тэлебачанне і радыё фінансуюцца з бюджэту, які складаецца са сродкаў беларускіх грамадзян. Служэнне СМІ асобнай сацыяльнай групе гэта не што іншае, як узурпацыя права распараджацца агульнанацыянальнай уласнасцю. Гэта забаронена артыкулам 33 Канстытуцыі, якая не дапускае манаполію СМІ дзяржавай, грамадскімі аб'яднаннямі ці асобнымі грамадзянамі.

## Прасіць ці патрабаваць?

У апазіцыйным асяроддзі існуюць два пункты погляду па рашэнні пытання свабоды слова. Першы – апазіцыя стаіць на каленях перад уладай і выпрошвае доступ да дзяржаўных СМІ, другі – ніякіх кансультацый і перамоў па гэтым пытанні з цяперашняй уладай весці не трэба.

На наш погляд, гэта дзве крайнасці. Ісціна – пасярэдзіне. Кансультацыйны савет пазбягае "рэвалюцыйных" рашэнняў. Ён дзейнічае ў межах і на падставе існуючага заканадаўства, нягледзячы на тое, што не ва ўсім задавальняе дэмакратычную апазіцыю. У дачыненні да мас-медыя Кансультатыўны савет не патрабуе нічога звышверагоднага. Гэтыя патрабаванні носяць не столькі палітычны, колькі юрыдычны характар.

## Чаго хоча дасягнуць Кансультатыўны савет?

Першае – забяспечыць выкананне падпісаных у кастрычніку 1999 года Пагадненняў аб доступе палітычнай апазіцыі да дзяржаўных сродкаў масавай інфармацыі,.

Другое – стварыць роўныя ўмовы дзейнасці для СМІ усіх формаў уласнасці.

Гэта канстытуцыйнае патрабаванне (артыкул 13 Канстытуцыі), якое ўсе абавязаныя выконваць безумоўна.

Трэцяе – прывесці беларускае заканадаўства аб СМІ ў адпаведнасць з агульнапрынятымі міжнароднымі стандартамі.

Гэтае патрабаванне таксама прадыктаванае Канстытуцыяй, якая абвяшчае прыярытэт агульнапрынятых прынцыпаў міжнароднага права (артыкул 8). І, напэўна, невыпадкова, што распрацоўшчыкі новага закона аб СМІ прызналі, што ў гэтай галіне першараднае значэнне маюць міжнародныя дагаворы, якія ратыфікавала Рэспубліка Беларусь. Справа засталася за малым – ухіліць з беларускага заканадаўства палажэнні, якія супярэчаць нормам міжнароднага права ў галіне СМІ.

Чацвертае – спыніць умяшанне органаў пракуратуры і дзяржаўнай бяспекі ў журналісцкую дзейнасць.

У апошні час органы праваахоўы бесцырымонна ўмешваюцца ў чыста прафесійную сферу дзейнасці незалежных СМІ, праводзячы з журналістамі "прафілактычныя" размовы, а таксама выкарыстоўваюць фармальна прававыя сродкі ўздзеяння. Чаго варты адзін прыклад з газетай "Пагоня"!

Пятае – прыступіць да дэманапалізацыі дзяржаўнага тэлебачання і радыёвяшчання, паліграфічных прадпрыемстваў, сістэмы дастаўкі і распаўсюджвання друкаваных СМІ.

Гэта не столькі юрыдычнае, колькі палітычнае пытанне, і наўрад ці будзе вырашана ў сістэме цяперашней улады. Але гучаць яно павінна, хаця б для таго, каб пастаянна нагадваць уладам, хто ў краіне сапраўдны гаспадар. Створанае на народныя грошы павінна належаць і служыць народу.

Шостае – стварыць сістэму грамадскага кантролю за дзейнасцю СМІ.

Такая сістэма існуе ва ўсіх цывілізаваных краінах і служыць гарантыяй ад умяшальніцтва дзяржавы і фінансавых алігархаў у прафесійную дзейнасць журналістаў.

Сёмае – сфарміраваць з ліку міжнародных і беларускіх экспертаў групу па вывучэнні сітуацыі са сродкамі масавай інфармацыі ў Рэспубліцы Беларусь.

Для таго, каб забяспечыць сапраўднае рэфармаванне заканадаўства аб СМІ і наступнае змяненне ўсёй сістэмы масмедыя, неабходная работа незалежных спецыялістаў і ўлік іх аб'ектыўных рэкамендацый.

## Куды Ідзем?

Відавочна, што ўяўленні дэмакратычнай апазіцыі і улады пра шляхі далейшага развіцця СМІ дыяметральна разыходзяцца. Улада катэгарычна не жадае адмовіцца ад манапольнага ўладання сродкамі масавай камунікацыі.

Беларусь засталася апошняй "жоўтай плямай" несвабоды слова на карце Еўропы. Ад гэтай пазорнай плямы нам трэба ачысціцца, і як мага хутчэй. Надзея толькі на прагрэсіўнае развіццё краіны. Іншага проста не дадзена. Цяперашняя ўлада пастаўленая перад выбарам: ці жыць па агульнаеўрапейскіх законах, ці пайсці ў глухую самаізаляцыю, якая прывядзе да эканамічнага жабрацтва і інтэлектуальнай дэградацыі.

У дэмакратычнай часткі грамадства няма сумненняў, які павінен быць далейшы шлях Беларусі. Гэты выбар павінныя прыняць як мага больш беларускіх грамадзян. Роля незалежных СМІ ў руху Беларусі ў Еўропу пераацаніць немагчыма. Таму свае галасы ў падтрымку вешчуноў свабоды – незалежных масмедыя – павінныя далучыць тысячы, мільёны грамадзян. Без свабоды слова няма свабоды грамадства.

**Міхаіл ПАСТУХОЎ, Юрый ТАПАРАШАЎ, эксперты па СМІ пры Кансультатыўным савеце апазіцыйных палітычных партый.**

# «Article 19» крытыкуе праект закона аб СМІ

**На слуханнях у Страсбурзе міністр інфармацыі Рэспублікі Беларусь Міхаіл Падгайны заявіў, што беларускія ўлады гатовыя накіраваць законапраект "Аб сродках масавай інфармацыі" на экспертызу ў Савет Еўропы. Па яго словах, гэты дакумент адпавядае калі не ўсім, то большасці стандартаў, прынятых сёння ў Еўропе.**

Нядаўна ў адрас Беларускай асацыяцыі журналістаў паступіла экспертнае заключэнне Сусветнай кампаніі за свабоду слова "Article 19" на апошні варыянт законапраекта.

Агульная высНова міжнародных экспертаў такая: "многія палажэнні праекта не адпавядаюць міжнародным стандартам у дачыненні свабоды слова, а некаторыя іншыя палажэнні... з'яўляюцца непатрэбнымі або іх змест мог бы быць палепшаны". Асаблівы непакой "Article 19" выклікала недасканаласць праекта ў частцы рэгістрацыі СМІ, забеспячэння незалежнасці кіруючых органаў, свабоды інфармацыі, абароны крыніц інфармацыі і адказнасці за правапарушэнні.

Міжнародныя эксперты паставілі пад сумненне патрабаванне аб рэгістрацыі друкаваных СМІ, якія з такой стараннасцю прапісалі распрацоўшчыкі законапраекта. Аказалася, што ў Еўропе такія патрабаванні да СМІ ўжо даўно не прад'яўляюцца, паколькі сама працэдура рэгістрацыі можа стаць прадметам злоўжыванняў.

Крытыцы падвергнуты артыкул 15 праекта, згодна з якім ва ўсіх выпадках друкаваных СМІ патрабуецца "прадаставіць у орган дзяржаўнага кіравання ў сферы масавай інфармацыі дакументы, якія адлюстроўваюць выходныя дадзеныя выдання, а таксама прадаставіць абавязковы экземпляр такога выдання". Эксперты прызналі, што частка 2 гэтага артыкула адмяняе палажэнне часткі 1 аб вызваленні ад рэгістрацыі друкаваных СМІ тыражом да 500 экземпляраў.

У гэтай сувязі нагадваецца, што Камітэт ААН па правах чалавека ў сваім рашэнні супраць Урада Беларусі (размова ідзе пра скаргу грамадзяніна Лапцэвіча) пастанавіў, што прадпісанае законам патрабаванне аб рэгістрацыі аўтарам сваёй публікацыі з тыражом, які складае толькі 200 экземпляраў, з'яўляецца недарэчным, цяжкім; яно скоўвае эфект свабоды слова, а яго існаванне ніяк не можа быць апраўдана ў дэмакратычным грамадстве.

Міжнародныя эксперты крытычна ўспрынялі ідэю аб рэгістрацыі сеткавых сродкаў масавай інфармацыі, якія рэгулярна займаюцца зборам, захоўваннем, апрацоўкай і распаўсюджваннем матэрыялаў праз Інтэрнет. Пры гэтым яны прывялі наступныя доказы. Па-першае, падобнае патрабаванне стварае нічым не апраўданыя адміністрацыйныя перашкоды да выдавецкай справы ў Інтэрнеце. Па-другое, патрабаванне будзе прымяняцца да ўсіх сеткавых СМІ, незалежна ад іх памеру, а патрабаванне аб рэгістрацыі малых выдаўцоў з'яўляецца несумяшчальным з правам на свабоду слова. У дачыненні да Інтэрнету эксперты прапануюць прытрымлівацца практыкі самакіравання, гэта значыць, пакінуць усё, як ёсць.

Вельмі моцна міжнародныя эксперты "праехаліся" па такім дзіцяці распрацоўшчыкаў, як "Грамадскі савет па каардынацыі, грамадскім кантролі і вырашэнні спрэчных пытанняў у сферы масавай інфармацыі". Высветлілася, што такія органы павінны быць незалежныя ад урада. Эксперты рэкамендавалі даць "Грамадскаму савету" сапраўдную свабоду як у фарміраванні, так і ў яго дзейнасці. І ніякіх заключэнняў пра парушэнне газетамі заканадаўства ён не павінен выносіць.

Сур'ёзную заклапочанасць экспертаў "Article 19" выклікаў раздзел 6 праекта, у якім рэгулюецца дзейнасць вяшчальных СМІ. Яны адзначылі, што праект закона не прадугледжвае палажэння аб існаванні незалежнай службы грамадскага тэлерадыёвяшчання. У выніку ТБ і радыё будуць працягваць работу над кантролем урада і функцыянаваць як дзяржаўныя ўстановы. У адпаведнасці з міжнароднымі стандартамі рэкамендаванаператварыць дзяржаўныя вяшчальныя кампаніі ў незалежныя службы грамадскага вяшчання, мандатам якіх з'яўляецца служба грамадскім інтарэсам.

Эксперты звярнулі ўвагу на тую акалічнасць, што ў праекце некалькі разоў гаворыцца пра "недакладную інфармацыю" як сур'ёзны недахоп у дзейнасці СМІ. У гэтай сувязі яны нагадалі распрацоўшчыкам, што, у адпаведнасці з міжнароднымі стандартамі, "выкарыстоўванне прававых мер для забароны распаўсюджвання недакладнай інфармацыі не можа быць апраўдана як законнае абмежаванне свабоды слова". У дакуменце "Article 19" прыводзіцца характэрная вытрымка з рашэння Еўрапейскага суда па правах чалавека: "Навіны з'яўляюцца хуткапсавальным прадметам спажывання, і адтэрміноўка ў іх публікацыі нават на кароткі тэрмін можа пазбавіць іх каштоўнасці і цікавасці да іх". Таму патрабаванне законапраекта аб прадастаўленні толькі сапраўднай інфармацыі можа аказваць непрымальны "скоўваючы эфект" на свабоду слова.

Экспертам не спадабаўся артыкул законапраекта над назвай "Злоўжыванне свабодай масавай інфармацыі" (арт. 6). Яны яго назвалі "абмежаваннем зместу". На іх думку, першыя два абмежаванні толькі паўтараюць забароны, якія ўжо ёсць у законах агульнага прымянення (гэта не што іншае, як "двайное паппярэджанне" для СМІ). Трэцяе палажэнне артыкула 6 аб забароне на распаўсюджанне інфармацыі ад імені незарэгістраваных партый і арганізацый яны таксама не лічаць законным, паколькі яно істотна абмяжоўвае свабоду слова.

Сур'ёзнай крытыцы падвергліся артыкулы 53-56 праекта, якія гарантуюць права СМІ на доступ да інфармацыі, якая знаходзіцца ў распараджэнні дзяржаўных органаў і юрыдычных асоб. Іх здзіўляе, што права доступу прызнаецца толькі ў дачыненні да рэдакцый, але не ў дачыненні да асаобных журналістаў. Міжнародныя стандарты ў гэтай галіне патрабуюць уключэння ў закон палажэння аб падтрымцы бесперашкоднага доступу да інфармацыі, за выключэннем інфармацыі абмежаванага доступу.

У дакуменце звяртаецца ўвага на слабыя месцы арт. 57 праекта, які прысвячаецца абароне крыніц інфармацыі. Згодна з часткай другой гэтага артыкула, журналіст абавязаны раскрыць свае крыніцы "па патрабаванні суда, органа, які здзяйсняе дазнанне або следчага ў сувязі з расследаваннем або разглядам спраў, што знаходзяцца ў іх вытворчасці".

Са спасылкай на рашэнні Еўрапейскага суда па правах чалавека і Камітэта Міністраў Савета Еўропы эксперты "Article 19" прапануюць узмацніць гарантыі права журналістаў не раскрываць свае крыніцы інфармацыі, акрамя выключных выпадкаў.

На думку экспертаў, раздзел 10 праекта, які ўстанаўлівае адказнасць СМІ за правапарушэнні, таксама не адпавядае стандартам, прынятым у Еўропе. Ён прадугледжвае толькі два віды спагнанняў у дачыненні да СМІ: пісьмовае папярэджанне і спыненне выпуску СМІ. Еўрапейцам незразумела, чаму атрыманне больш чым двух папярэджанняў на працягу года можа прывесці да закрыцця газеты.

У дакуменце рэкамендуецца стварыць механізм санкцый з плаўнай шкалой адказнасці, каб прымяняемыя спагнанні адпавядалі характару і ўзроўню парушэння. Пры гэтым, рэдакцыям павінна быць прадастаўленая магчымасць абскарджання рашэння аб спагнанні кампетэнтнымі органамі. Гэта – толькі частка крытычных заўваг і рэкамендацый, выказаных экспертамі "Article 19".

Хутчэй за ўсё, давядзецца дапрацоўваць законапраект з улікам еўрапейскіх стандартаў.

**Міхаіл ПАСТУХОЎ, кіраўнік Цэнтра прававой абароны СМІ пры ГА "Беларуская асацыяцыя журналістаў", доктар юрыдычных навук, прафесар.**

■ ГАРАДКІ

## Генадзь Сушко: «Гарадкі для мяне – гэта свабода»

**З 12 па 18 лютага ў Ніжнім Ноўгарадзе праходзіў турнір па гарадках, прысвечаны памяці неаднаразовага чэмпіёна СССР Фёдара Рабцова.**

У турніры бралі ўдзел каманды Беларусі, Украіны і Расіі. Каманда беларусаў складалася з шасці чалавек: 5 з Маладзечна і адзін з Гродзенскай вобласці. Капітанам каманды быў вызначаны наш маладзечанец **Генадзь Сушко**. Трэнер каманды – **Аляксандр Кулак**. Камандныя спаборніцтвы пачаліся пасля завяршэння асабістых. У выніку тры першыя месцы падзялілі паміж сабой каманды Расіі: 1-е – Верхняй Пышмы, 2-е – Краснадарскага краю, 3-е – Ніжняга Ноўгарада.

У асабістым першынстве ўдзельнічала 80 чалавек. Генадзь Сушко заняў чацвертае месца, яго вынік – 116 біт на 90 фігур. Прыз – 2000 расійскіх рублёў. Самым моцным стаў Васіль Духанін, які скарыстаў 109 біт.

Генадзь гуляе ў гарадкі з шасці год. Непадалёк ад месца, дзе ён жыў раней, знаходзілася спартыўная пляцоўка, там дзеці і бавілі свой час. Дзіцячыя гульні пазней перайшлі ў прафесійны спорт. З 21 года Генадзь у прафесійных гарадках. Зацікавілі яго ў гэтым Аляксандр Кулак і **Аляксандр Сучко** – трэнеры і заўзятыя гарадошнікі. Але часам Генадзь шкадуе, што не пайшоў у футбол ці вялікі тэніс, бо яны з'яўляюцца алімпійскімі відамі спорту. Лічыць, што на тое, каб узняць гарадкі да такога ўзроўню, трэба забяспечыць дастатковае фінансаванне і масавую зацікаўленасць. Бо на сённяшні дзень з-за недахопу сродкаў каманды нават не выязджаюць на некаторыя турніры.

Каб заўсёды быць у форме, трэба прыкладаць шмат намаганняў, імкнуцца да перамогі, мець вытрымку, баявы настрой, адным словам – характар. Па словах Генадзя, і перамога, і ўдзел аднолькава важныя, але сам ён перавагу аддае перамозе. Самым складаным для сябе лічыць трэніроўкі, бо не хапае часу, а ў спорце – фігуру "вартавыя". Яго галоўнае жаданне – узяць першынство на чэмпіянаце свету.

Яшчэ ў дзяцінстве, гуляючы ў гарадкі, аб'ездзіў амаль увесь СССР. Самым любімым месцам спаборніцтва Генадзь назваў Еўпаторыю, бо там "вельмі ўтульна і можна добра адпачыць". А Ніжні Ноўгарад не вельмі падабаецца. Гэта для яго нешчаслівы горад.

Мінулы год Генадзь лічыць не вельмі ўдалым. Асабліва пасля бліскучага 2000-га, дзе ён стаў сярэбраным прызёрам зімовага і летняга чэмпіянату Еўропы ў асабістым заліку, у складзе нацыянальнай каманды ён стаў срэбраным прызёрам Кубка Еўропы і бронзавым прызёрам чэмпіянату Еўропы ў закрытых памяшканнях.

**Таццяна СЕМАШКЕВІЧ.**

■ НАСТОЛЬНЫ ТЭНІС

## Адбор перад вобласцю



Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

**Пераможца гарадскога чэмпіянату па настольным тэнісе Руслан Вірынскі.**

**МАЛАДЗЕЧНА. 26 лютага ў зале настольнага тэніса пры фізкультурна-спартыўным клубе "Агеньчык" прайшоў гарадскі чэмпіянат сярод інвалідаў з парушэннем апорна-рухальнага апарата.**

Спаборніцтвы праходзілі ў дзвюх намінацыях: сярод "калясачнікаў" і сярод "апорнікаў". Удзельнічала 8 чалавек – па 4 ў кожнай. Гулялі па кругавой сістэме.

**Руслан Вірынскі** перамог сярод тых, хто не можа хадзіць. Прытым паказаў даволі высокі ўзровень, бо на роўных гуляў з хлопцамі, што займаюцца ў тэніснай секцыі. Другім стаў **Сяргей Гудовіч**, трэцім – **Алег Васілеўскі**.

У другой групе перамагла адзіная жанчына – **Вольга Грынько**. Яна выйграла ўсе тры партыі. У тройку ўвайшлі **Юрый Леташнеў** і муж Вольгі – **Аляксандр Грынько**. Прызёры атрымалі граматы ад гарадскога аддзела па спорце і турызму, а пераможцы – яшчэ і па 5 тысяч рублёў.

Сёння ў Барысаве пачынаецца чэмпіянат вобласці па армрэстлінгу і тэнісе сярод інвалідаў, у якім будзе ўдзельнічаць і маладзечанская каманда.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

■ БОКС




**Атакуе Сяргей Ермашкевіч з Віцебскай вобласці.** Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

## Наперадзе – фіналы

**МАЛАДЗЕЧНА. 26 лютага ўпершыню ў горадзе пачаўся чэмпіянат краіны па боксе.**

Спаборніцтвы праходзяць у 12 вагавых катэгорыях. Усяго ўдзельнічаюць 94 спартсмены з усіх абласцей краіны. Маладзечанцы могуць убачыць у справе ўсіх мацнейшых на сённяшні дзень баксёраў.

Колькасць удзельнікаў у кожнай катэгорыі розная. Менш за ўсё "мухачоў" – у катэгорыі да 48 кг прадстаўлены два спартсмены. Самая папулярная катэгорыя – да 63,5 кг. Там за першынство змагаюцца 14 спартсменаў. Першыя тры дні праходзілі кваліфікацыйныя баі. Сёння адбудуцца паўфінальныя схваткі, а заўтра а 11-й гадзіне пачнуцца фіналы.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

■ ТУРЫЗМ

## Настаўнікі – лепшыя

Прайшоў чэмпіянат па турызме сярод паходаў першай катэгорыі складанасці Маладзечна за сезон 2001 года. У чэмпіянаце бралі ўдзел 7 каманд. Першае месца, са значным адрывам ад другога, заняла група настаўнікаў пад кіраўніцтвам Сяргея Бялкова, якая праехала вельмі цікавы маршрут: Залессе – Крэва – Баруны – Гальшаны – Іўе – Шчорсы – Івянец – Маладзечна. Вось яны, чэмпіёны: **Таццяна Вазняк** (СШ №1), **Ірына Грэмза і Вольга Яблонская** (СШ №3), **Алег Быньковў** (СШ №4), **Аляксандр Страх** (СШ №5), **Аксана Каракай** (СШ №7), **Аляксандр Краўчонак** (СШ №11) і **Міхаіл Есьмановіч** (СШ №12). На другім месцы група турклуба "Пілігрым", таксама пад кіраўніцтвам С. Бялкова. На трэцім – група, якая падарожнічала па Горным Крыме пад кіраўніцтвам **Таццяны Булавы** (завод "Спадарожнік"). 2 і 3 месцы занялі сямейныя групы. Самым маладым удзельнікам паходу па Крыме – **Яну Талпыгу** і **Ігару Булаве** – усяго па 9 гадоў. Абавязкова яшчэ трэба адзначыць і групу **Міхаіла Есьмановіча**, які ўпершыню быў у якасці кіраўніка і ўпершыню ўзяў удзел у чэмпіянаце. Пятае месца яго групы – гэта даволі высокі пар[illegible]ыўны вынік. Маючы добрыя патэнцыяльныя магчымасці, у гэтым годзе ён можа лёгка ўвайсці ў тройку лепшых.



Фота Сяргея БЯЛКОВА.

**Вежа Любчанскага замка ў вёсцы Любча Навагрудскага раёна. Група маладзечанскіх настаўнікаў.**

А лепшых чакаюць узнагароды, граматы маладзечанскага турклуба "Пілігрым" і каштоўны прыз кіраўніку групы С. Бялкову.

**Іван СІДАРОВІЧ.**

## Табло

■ КАНТРОЛЬНЫЯ МАТЧЫ

**11.02 Смаргонь – Нёман-Белкард (Гродна) 0:4 (0:0)**
Галы: (50), (56), (67), (75)
Гродна, грунт

**13.02 Смаргонь – Ліда (Д2) 0:0**
Ліда, грунт

**19.02 Маладзечна-2000 – Лакаматыў (Мінск, Д2) 1:1 (0:1)**
Галы: Млечка (80); (35)
Мінск, грунт

**20.02 Маладзечна-2000 – Дынама-Юні (Мінск, Д2) 7:4**
Галы: Пацкевіч, Альховік, 2:2, Муравейнікаў, Мігас, 4:3, Смірноў, Дзёмін, 6:4, Міхалёў
Стайкі, манеж, склады 9 на 9

**23.02 Маладзечна-2000 – Спартак (Тамбоў, Расія, Д3) 2:3 (1:1).**
Галы: Млечка (25), Дрозд (65); (40), (90), (90).
Стайкі, манеж, склады 9 на 9.

■ МАЛАДЗЕЧНА-2000

З-за таго, што маладзечанцы не трапілі на турнір у Магілёве з-за дрэнных умоў надвор'я, яны з 4-га па 9-га сакавіка плануюць пагуляць у Брэсце. Там збяруцца гаспадары-дынамаўцы, "Зорка-ВА-БДУ", магчымы прыезд віцебскага "Лакаматыва", будуць удзельнічаць каманды першай і другой ліг, што прадстаўляюць Брэстчыну.

**Віталь Сцепановіч** вярнуўся ні з чым з прагляду ў адным з польскіх клубаў, **Аляксандр Вільтоўскі** хварэе. Аўтары галоў "юнаўцам" **Аляксандр Пацкевіч** і **Аляксей Дзёмін** прыбылі на прагляд адпаведна з "Дняпра-Трансмаша" і жодзінскага "Тарпеда". Першы трэнерам спадабаўся больш. У Анталью на сбор з "Тарпеда-МАЗам" паехаў **Дзмітрый Кабельскі**.

■ СМАРГОНЬ

Адмена гродзенскага турніру па фінансавых праблемах не надта перашкодзіла смаргонцам у іх трэніровачнай працы, праўда, напрыканцы доўгага збора адарваная ад дома каманда крыху стамілася псіхалагічна. Медыцынскае тэсціраванне паказала, што футбалісты на працягу збора дадалі ў сваёй падрыхтоўцы.

Цяпер каманда будзе трэніравацца ў сваім раёне, абавязкова праводзячы "спарынгі" раз на тыдзень.

Пакінуў смаргонцаў і адправіўся ў "Працоўныя рэзервы-РІПА" (Д3) **Аляксей Шпілеўскі**. **Алегу Чарнуху** будзе зроблена аперацыя на мяніску, якая наўрад ці дазволіць яму выступаць у першым крузе чэмпіянату. Цяпер у камандзе працуе шмат навічкоў. Гэта абаронцы **Дзмітрый Ваўчок** ("Маладзечна-2000", 1976), **Сяргей Сілін** (прыйшоў з "Трактара", Д3, 1976 года нараджэння), **Аляксандр Байда** ("Старыя Дарогі", Д3, 1979), паўабаронца **Дзяніс Крывальцэвіч** ("Лакаматыў", Д2, 1981), нападаючыя **Валерый Стэльмах** (апошнім часам быў у расійскім горадзе Улан-Удэ, а некалі выступаў у нашай вышэйшай лізе за сталічных аўтазаводцаў; 1974), **Васіль Шэўчык** (шклоўскі "Спартак-ВАР-Днепр", Д3, 1980). Займаюцца ў складзе "Смаргоні" і мясцовыя юнакі **Яўген Шоць** (1984) і **Іван Смольскі** (1986). Магчымыя іншыя змяненні ў складзе.

■ КАЛЯНДАР

Вышэйшая ліга стартуе 12 красавіка ў пятніцу. Маладзечанцы згуляюць у Мінску з дэбютантам "Зоркай-ВА-БДУ". Дарэчы, лёс гэтай каманды яшчэ ў студзені быў пад пытаннем. Але ў рэшце рэшт яна распачала "перадсезонку", праўда, ужо без **Міхаіла Мархеля**, які ў якасці галоўнага трэнера вывеў армейцаў (даволі нечакана для многіх, відаць, у тым ліку, і для спонсараў) у лігу мацнейшых. У другім туры (21-га чысла) распачнецца футбольны сезон у рэгіёне: маладзечанцы прымуць гродзенскі "Нёман-Белкард".

У тыя ж выхадныя пачне гуляць і першая ліга. З кім давядзецца сустрэцца смаргонцам невядома – каляндар пакуль не складзены. У многіх каманд цяжкая фінансавая сітуацыя. Наўрад ці зможа стартаваць асіповіцкі "Дах", не распачыналі падрыхтоўку да сезона яшчэ некалькі калектываў.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

■ МІНІ-ФУТБОЛ

Зону чэмпіянату вобласці ў родных сценах выйграў ЗМК, адзаду засталіся землякі. Адна з каманд-удзельніц не прыехала, таму пакуль вядома, што ў фінальную пульку (15-17 сакавіка зноў жа у Маладзечне) выйшлі толькі завадчане.

| Каманды | Вынікі | | | | | Ачкі |
|---|---|---|---|---|---|---|
| **1. ЗМК (Маладзечна)** | ## | 2:1 | 3:1 | 8:0 | 6:5 | 12 |
| **2. Сябрына (Маладз.)** | 1:2 | ## | 7:5 | 5:0 | 5:3 | 9 |
| **3. Вілейка** | 1:3 | 5:7 | ## | 3:2 | 5:4 | 6 |
| 4. Заслаўе | 0:8 | 0:5 | 2:3 | ## | 4:0 | 3 |
| 5. Мінскі раён | 5:6 | 3:5 | 4:5 | 0:4 | ## | 0 |

У складзе ЗМК былі ўсе тыя ж гульцы, што ўзялі нядаўна Кубак, толькі дадаўся **Аляксандр Страх**. За "Сябрыну" выступалі вядомыя маладзечанскія футбалісты **Уладзімір Галубко**, **Аляксандр Лебедзеў**, **Сяргей Івашкевіч**, **Сяргей Карыцька**, **Сяргей Рысік**, **Аляксандр Чарняўскі**, **Андрэй Радкевіч** і іншыя. Віляйчанамі кіраваў **Дзмітрый Гулевіч**, былі ў складзе **Мікалай Абрамовіч**, **Алег і Дзмітрый Губічы**, **Аляксандр Пачынкоў**.

■ ГРЭКА-РЫМСКАЯ БАРАЦЬБА

У Чысці адбыўся ўжо адзінаццаты рэспубліканскі мемарыял памяці воіна-інтэрнацыяналіста **Сяргея Новікава**.

Было каля двухсот юнакоў 1980-1991-га гадоў нараджэння у 23 вагавых катэгорыях з Маладзечна і раёна, з Мінска і Пухавічаў.

Пераможцы-раённікі: **Яўген Масленікаў**, **Дзмітрый Сушко**, **Дзмітрый Дзёмін**. Пераможцы-гараджане: **Дзмітрый Хоміч**, **Давід Стадуб**, **Раман Багданёнак**, **Дзмітрый Захараў**, **Руслан Пеўнеў**, **Аляксандр Балаш**, **Яўген Колесень**, **Аляксандр Папоў**.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

## ВІНШАВАНКІ

З 50-годдзем!
**Людміле Мікалаеўне Кавалёнак!**



Дарагая наша! Віншуем ад усяе душы.
Желаем нашей юбилярше
Грядущих ясных, светлых дней,
Но с каждым годом быть не старше,
А моложе и милей.
Все к ногам твоим сегодня брошено:
Добрые, сердечные приветы,
Пожеланья самые хорошие,
Розовое кружево рассвета.
Даже солнце нынче ярко светится –
Это специально для тебя!
Дорогая наша именинница,
Будь же повелительницей дня!
Желаем быть такой красивой,
Как поутру цветы в росе,
Желаем быть такой счастливой,
Чтоб позавидовали все.

*З любоўю, сваты, дочкі, зяць, унук Руслан.*

Віншуем ад усёй душы з юбілеем **Лаўрыновіч Лію Іосіфаўну!**

Поздравляем, мамочка, тебя мы
С этим радостным
и светлым днем.
И от всей души тебе желаем,
Чтобы жизнь была
наполнена теплом.
Чтобы ты такой же оставалась
Долгие-предолгие года,
Ладилось все и удавалось,
Каждая мечта твоя сбывалась.
Мамочка, будь счастлива всегда!

*З любоўю, муж, дзеці, унукі.*

**Клені Уладзіміраўне Роліч**
З 55-годдзем!



Дарагая мамачка, віншуем са святам! Жадаем здароўя, даўгалецця, шчасця.

Белой стаей годы пролетели,
Но душа, как прежде, молода.
Соловьи еще не все пропели,
Утекла еще не вся вода.
Юбилей твой праздничный
и светлый,
И грустить не время, не пора.
Долгих лет тебе и яблонь
в белом цвете,
Радости, и счастья, и добра!

*Сын, нявестка, унук Максім.*

**Алесю Кізіну** віншую з днём нараджэння. Жадаю моцнага здароўя, шчасця, поспехаў у вучобе, радасці. *Насця.*

Віншуем з днём нараджэння **Соф'ю Максімаўну Мікуліч!** Жадаем моцнага здароўя, аптымізму, шчасця, кахання. *Оля, Таня.*

Віншую са святам 8 Сакавіка **мамачку, Я. Волечку, Т. Тацціну, Ц. Ганну, Я. Наталлю, Ц. Іру, В. Кацю, Г. Насцю.** *Света Янцэвіч.*

Дарагі муж **Аляксандр Дземідовіч,** віншую з 26-годдзем! Жадаю моцнага здароўя, кахання, сямейнага дабрабыту. *З любоўю, жонка Вольга.*

**Танюша!** З 18-годдзем. Жадаю здароўя, кахання, шмат верных сяброў, поспехаў у жыцці. *Твая сястра Люда.*

Любімую дачушку **Таццяну Шупенько** з 18-годдзем. Жадаем поспехаў у вучобе, шчасця, кахання. *Мама, тата.*

Віншуем з днём нараджэння **Андрэя Багуцкага.** Жадаем шчасця, здароўя, добрага настрою, удачы і кахання. *СябрОўкі Таня і Оля.*

Любімага **Аляксандра Міцько** віншую з днём нараджэння. Жадаю ўсяго самага добрага, кахай і будзь каханы. *Твая Танюша.*

**Аляксееўна, Валер'еўна, Васільеўна, Георгіеўна, Іванаўна, Лявонцьеўна, Мікалаеўна, Пятроўна, Сяргееўна, Сямёнаўна, Эдуардаўна!** Віншую з 8 Сакавіка. *Леанідавіч.*

Віншуем са святам 8 Сакавіка **Раісу Дзмітрыеўну Галадок** і **Кацярыну Пятроўну.** *Леанід, Алег, Арцём.*

### Кінатэатр «Радзіма»

**Сакавік**

**Вялікая зала**

4-10 **"Дзень пантэры"**, ЗША, баявік 15-00, 17-00
**"Паездачка, або дарожная прыгода"**, ЗША, эратыч. Камедыя, акрамя асоб да 16 год 19-00 (акрамя 5 сакавіка), 21-00
5.03 **"Мужчына і жанчына"**, 19-00 (рэтра-клуб "Настальгія")

**Для дзяцей**

3 **"Дзяцінства Бэмбі"** 13-00
8 **"Падмененая каралева"** 13-00
9 **"Дзеці шпіёнаў"** 13-00

## ЗНАЁМСТВЫ

49/159. Для прыемных сустрэч пазнаёмлюся з прыстойным мужчынам. Маладзечна-4, а/с 86.

Хачу пазнаёміцца з жанчынай для стварэня сям'і. Мне 50/170/70, жыллём забяспечаны. Маладзечна-6, п/п МС 0367626.

**Звярніце ўвагу**

Шаноўныя чытачы, калі вы хочаце павіншаваць знаёмых, блізкіх, то высылайце купон з разборліва напісаным тэкстам загадзя. Указвайце дату публікацыі – газета выходзіць па пятніцах. Бясплатна прымаюцца віншаванкі аб'ёмам да 15 слоў, якія паступілі ў рэдакцыю да аўторка ўключна. Зрабіце прыемнае сваім блізкім – павіншуйце іх праз газету!

Калі вы хочаце размясціць аб'яву аб знаёмстве, калі ласка, указвайце адрас да запатрабавання. Бясплатна змяшчаюцца аб'явы аб знаёмстве аб'ёмам да 15 слоў. Публікуюцца па чарзе. Па-за чаргой – платна. Жадаем знайсці сваё шчасце!

**Купон** 9

**да рубрык «Віншаванкі» і «Знаёмствы».**
**Бясплатна змяшчаюцца тэксты аб'ёмам да 15 слоў.**
**Ананімныя купоны не разглядаюцца. Пішыце, калі ласка, разборліва.**

ТЭКСТ

Рэгіянальная газета

ПРОЗВІШЧА, ІМЯ, АДРАС (НЕ ДЛЯ ДРУКУ)

## Агрэсія – іржа душы

Як вядома, экалогія – гэта навука аб узаемадзеянні арганізма з навакольным светам. А ў паўсядзённым жыцці, напрыклад, чалавек сутыкаецца не толькі з прыроднымі з'явамі ці сацыяльнай інфраструктурай, але і з іншымі людзьмі. Гэта таксама экалогія. Але – сацыяльная.

Пазалетась Маладзечанскі экалагічны цэнтр "Крыніца" правёў псіхалагічнае тэсціраванне 52 жыхароў Маладзечна. Вывучалася негатыўная камунікатыўная ўстаноўка. Хоць і прайшоў пэўны час, але хочацца прывесці некаторыя дадзеныя апытання. Тым больш, што прынцыпова ў нашым грамадстве з 2000 года нічога не змянілася.

Камунікатыўная ўстаноўка – гэта асабісты досвед чалавека, атрыманы пры нейкіх абставінах, які аўтаматычна пераносіцца на ўсе падобныя сітуацыі. Калі, напрыклад, гандляр або абразіў пакупніка, або, наадварот, шчыра дапамог яму, то негатыўная ці пазітыўная ўстаноўка будзе спрацоўваць і ў адносінах да іншых гандляроў. Адказы на пытанні тэста, у ходзе іх апрацоўкі, зводзяцца ў балы. І чым больш балаў набірае чалавек, тым большая яго ная негатыўная ўстаноўка, тым у больш змрочных фарбах ён бачыць свет, тым больш варожым у адносінах да сябе ўяўляе ён грамадства. А гэта ўжо – стрэсавыя фактары, якія вядуць да нервовых зрываў ці захворванняў.

А цяпер прывядзем адказы на некаторыя пытанні:

– большасць працоўных на прадпрыемствах прыбіраюць да рук усё, што дрэнна ляжыць? (Згодныя 86% апытаных);

– большасць людзей пойдзе на дрэнныя ўчынкі дзеля асабістых інтарэсаў? (Так – 86%);

– большасць людзей любіць напляткарыць адзін пра аднаго? (Згаджалася 95% маладзечанцаў);

– высокапастаўленыя чыноўнікі, як правіла, лоўкія і спрытныя? (За – 75%);

– дурняў вакол сябе бачым часцей, чым разумных? (67% станоўчых адказаў);

– з нашым народам можна пабудаваць шчаслівае грамадства ў недалёкай будучыні? (Так – 14%);

Сярэднія паказчыкі кампанентаў негатыўнай камунікатыўнай устаноўкі ў балах па нашым горадзе аказаліся наступныя:

– прыхаваная жорсткасць у адносінах да людзей – 77 балаў;

– адкрытая жорсткасць да людзей – 71 бал;

– бурчанне (неабгрунтаванае абагульненне негатыўных фактараў ва ўзаемаадносінах з людзьмі) – 58 балаў;

– негатыўны досвед асабістых кантактаў – 61 бал;

– агульнае негатыўнае стаўленне да навакольных – 65 балаў.

Тут варта адзначыць, што падобнае тэсціраванне ў савецкі час праводзілася ў некаторых медыцынскіх установах. І хаця медыкі тады набіралі прыкладна ўдвая менш балаў, чым маладзечанцы агулам у 2000 годзе, нават тыя лічбы каментаваліся як трывожныя.

Такім чынам, можна адзначыць, што мы больш агрэсіўныя, чым талерантныя. І яшчэ. Негатыўная камунікатыўная ўстаноўка большая ў мужчын, чым у жанчын (закладзена генетычна), у пенсіянераў, чым у моладзі (сказваецца вялікі асабісты досвед), у людзей з меншай адукацыяй, чым у рэспандэнтаў з высокім адукацыйным цэнзам (бо апошнія часцей шукаюць альтэрнатыўныя шляхі, ідуць на кампраміс).

Негатыўная ўстаноўка, агрэсія, жорсткасць у адносінах да людзей пакрысе, але няўхільна разбураюць як самога чалавека, сем'і, так, у рэшце рэшт, і грамадства. Процістаяць гэтаму, на маю думку, можна па трох накірунках: у доўгатэрміновай перспектыве – павышэннем адукаванасці і культуры людзей, у сярэднетэрміновай – павышэннем матэрыяльнага дабрабыту. А ўжо цяпер можна выкарыстаць каласальны рэйтынг даверу нашага шматканфесійнага грамадства да інстытуту царквы. Бо ў любым храме вучаць дабру, а не злу.

**Алег БЯГАНСКІ.**

■ **НЯВЫДУМАНЫЯ ГІСТОРЫІ**

## З навукай не прападзеш!

Шмат хто са студэнтаў ездзіў падпрацоўваць улетку і ў больш далёкія краі. Некалькі чалавек скіраваліся сячы лясныя прасекі ў Бурацію, на Байкал. А там народу мала, таму дзікіх жывёл вельмі шмат. У тым ліку і мядзведзяў. Трыбульцы бароніцца ад "гаспадароў тайгі" стрэльбамі, а якія стрэльбы ў студэнтаў? Таму быў праведзены інструктаж, як трэба ўздзейнічаць на мядзведжую свядомасць "па навуцы".

А "па навуцы" атрымлівалася так: калі ўбачыш бурага, спачатку трэба стукнуць абухом сякеры па дрэве. Гэта павінна спужаць госця. Потым трэба было гарланіць на ўсё глотку. Ад гэтага, па інструкцыі, мядзведзь павінен уцякаць з такой хуткасцю, з якой не ездзяць нават на "Формуле–1".

Пачалася праца. Хлопцы адышліся ад базавага лагера кіламетраў можа на 15. З сабой – толькі сякеры, ежа і карты. Бачаць – ідзе! Так-так, ішоў мядзведзь па сваіх справах. Нікога не чапаў. Ужо нават прайшоў і тое месца, дзе стаялі маладыя людзі! Нават і аддаляцца ўжо пачаў... Але хлопцы верылі ў вялікую сілу навукі і вырашылі назаўсёды адвучыць касалапага паказваць у гэтым месцы. Ну, і пачалі дзейнічаць "па інструкцыі".

Пасля стуку аб дрэва мядзведзь стаў. Азірнуўся: "А што, я тут не адзін?". Потым весела пабег на дзікія крыкі "пазнаёміцца з суседзямі". Тут ужо аслупянелі студэнты. Нават пазелянелі ад страху, маскіруючыся пад дрэва. А "гаспадар тайгі" па-гаспадарску абнюхаў рукзакі, зжэр увесь хлеб і пакрысе пакрочыў далей. Ён прыходзіў на гэтае месца і ў наступныя дні, мабыць, вельмі даспадобы прыйшлася чалавечая ежа. Асабліва калі на яе нават клічуць! Але хлопцы ўжо маўчалі, як партызаны на допыце. Усё атрымалася "па навуцы": адмоўны вынік – таксама вынік!

## Атланты і карыятыды

Гісторыя адбылася ў Маладзечне. Прыдбаў чалавек для сваіх гаспадарскіх патрэб ёмістасць. А ёмістасць гэтая была даволі вялікая і вельмі нязграбнай формы. Таму і паставіў яе чалавек у самы кут у задняй частцы салона гарадскога аўтобуса. Ды яшчэ і падпёр яе спінай, плячыма, галавой, нават рукі завёў за галаву, каб прытрымліваць сваю рэч. У такой позе і паехаў, прыкрыўшы целам ёмістасць.

На адным з прыпынкаў у аўтобус уваліў натоўп "цінэйджэраў". Падлеткі пачалі гучна абмяркоўваць свае справы, а адзін хлопец – нейк падазрона касіўца на нашага "атланта".

Прыпынак. Адчыняюцца дзверы. Моладзь пачынае высадку. У гэты момант вышэйзгаданы хлопец са словамі: "Я бачу, ты вельмі круты, раз так стаіш!" – лупіць гэтага мужыка-падпорку кулаком у скіўцу і выскоквае з салона. Дзверы зачыняюцца. Аўтобус пачынае рухацца. Мужык мацюкаецца, ёмістасць валіцца на пол. Праўду кажуць людзі: "Хочаш жыць – не вылучайся!"

**Алег БЯГАНСКІ.**

■ **КОНКУРСЫ**

## Зарабі білеты ў кіно

Па тэхнічных прычынах з мінулага нумара "вываліўся" правільны адказ – дартс. Прыносім прабачэнні ўдзельнікам конкурсу.

Білеты ў кіно на гэты раз зарабілі тыя, хто назваў чырвоны колер. Менавіта ў гэты колер пафарбаваны Дзень святога Валянціна. Усе падарункі ў гэты дзень павінны мець у сабе адценне чырвонага. Віншую **Аляксандра Кендыша, Анастасію Лісічонак, Святлану Сабалеўскую, сям'ю Лябецкіх і Юрыя Мінца!**

Наступнае заданне: у 1931 годзе падчас вялікай эканамічнай дэпрэсіі амерыканскі бейсбаліст Бэйб Рут зарабіў фантастычную на той час суму ў 80 тысяч долараў. У той жа час гадавы даход тагачаснага прэзідэнта ЗША Герберта Гувера складаў 75 тысяч долараў. На пытанне рэпарцёра, ці не за шмат зарабляе спартсмен, Бэйб Рут даў такі адказ, што пытанняў у журналіста больш не было.

Пытанне: што сказаў Бэйб Рут? Тэлефануйце 69667 у Маладзечне (апошні тэрмін 6 сакавіка, 16-00) і прыходзьце па запрашальны білет для дзвюх асоб на прагляд фільма ў маладзечанскім кінатэатры "Радзіма".

**Юрый КАРПІЦКІ.**

■ **ЯК ЗВАРЫШ, ТАК І З'ЯСІ**



## Салата з селядца з бульбай

**Салёныя селядцы, 500 г бульбы, 1 яблык, 1 агурок, 1 маленькая цыбуліна, 1 лыжка каперсаў, 4 лыжкі алею, гарчыца, воцат, соль, цукар, перац.**

Селядцы вымачыць, пачысціць, выдаліць косці, нарэзаць аднолькавымі тонкімі кавалачкамі. Малако (што ад селядцоў) абчысціць і патрымаць у вадзе, булёне ці малацэ, прамыць у сіце. Звараную бульбу, яблыкі, агуркі пачысціць і нарэзаць аднолькавымі па памеры кубікамі. Селядцы, малако ад селядцоў змяшаць з нарэзанай цыбуляй і іншымі прыправамі. Дадаць бульбу, яблыкі і агуркі. Салату добра перамяшаць і даць яму пастаяць. Замест алею можна выкарыстаць 50-100 г маянэзу. Салата будзе яшчэ смачнейшая, калі дадаць у яе яблычнае віно (сідр), кавалачкі мяса або каўбасы, марынаваную ў воцаце гародніну.

## Лімонны дэсерт

**Цеста: 2 шклянкі мукі, 6 лыжак цукровага пяску, каліва солі, 200 г масла (пасачы), 1 яйка, 1 жаўток. Крэм: ; яйкі, звараныя крута, 2 жаўткі, 1 шклянка цукру, 2/3 шклянкі лімоннага соку, 100 г масла (насячы кавалачкамі), 1/2 пліткі белага шакаладу (настругаць).**

Замясіце цеста: у місцы змяшайце муку, цукар і соль. Дадайце масла і зяшайце да кансістэнцыі крошак. У місцы ўзбіце яйка і жаўток, уліце ў сумесь з мукой, сфарміруйце шар, завярніце яго ў плёнку і пакладзіце ў халадзільнік. Раздзяліце цеста на восем частак, раскачайце, пакладзіце ў формачкі ў выглядзе сэрцайкаў і выпякайце да залацістага колеру.

Крэм: змяшайце яйкі, жаўткі, цукар і лімонны сок. Варыце, памешваючы, да загусцення. Дадайце масла, белы шакалад, перамяшайце. Выліце крэм у формы на цеста, ахаладзіце. Перад падачай пасыпце кожную тарталетку цукровым пяском і пастаўце пад гарачы грыль на некалькі секунд, каб цукар карамелізаваўся.

■ **ІМЯНІНЫ**

**2 сакавіка**
**Праваслаўныя**: Марыяны, Міны, Фёдара.
**Каталіцкія**: Алены, Паўла, Радаслава, Сімпліцыя.

**3 сакавіка**
**Праваслаўныя**: Кузьмы, Льва.
**Каталіцкія**: Кунягунды, Марыны.

**4 сакавіка**
**Праваслаўныя**: Архіпа, Багдана, Макара, Максіма, Філімона, Фёдара, Фядота, Яўгена.
**Каталіцкія**: Люцыі, Казіміра.

**5 сакавіка**
**Праваслаўныя**: Агафона, Карнілы, Льва.
**Каталіцкія**: Андрыяна, Вацлава, Тэафіла, Фрыдэрыка.

**6 сакавіка**
**Праваслаўныя**: Астапа, Георгія, Цімафея.
**Каталіцкія**: Ружы, Віктара.

**7 сакавіка**
**Праваслаўныя**: Апанаса, Маўрыкія, Фёдара.
**Каталіцкія**: Перпятуі, Фелiцыты, Паўла, Тамаша.

## КРЫЖАВАНКА

Вадзім ЗУБРЫЦКІ.



**Па гарызанталях:** 3. Салодкая бульба. 8. Салодкая страва. 9. Вогнетрывалы матэрыял. 11. Харчовы прадукт, які робіцца з заквашанага малака. 13. Адзінка геалагічнай гісторыі Зямлі. 14. Адноснае пастаянства ўласцівасцяў арганізма. 16. Скрыначка для ручак. 17. Пясчаны ўраган у Сахары. 19. Выпучванне ўнутраных органаў. 22. Грашовая адзінка Перу. 23. Парадное мужчынскае адзенне. 24. Парнакапытная жывёла ў Афрыцы. 25. Вечназялёны лес вільготных тропікаў. 26. Свяшчэнная рака індусаў. 29. Пушыстая валакністая маса. 30. Канторскі служачы. 31. Імклівы напад войскаў. 33. Кляймо на скуры жывёл. 34. Вялікая марская птушка. 35. Насценнае асвятляльнае прыстасаванне. 37. Змяя, якая водзіцца ў лясах трапічнай Амерыкі. 38. Вялікае злучэнне ваенных караблёў. 40. Сухое пячэнне. 41. Самае вялікае возера Беларусі.

**Па вертыкалях:** 1. Стужка, завязаная ў выглядзе вузла і некалькіх петляў. 2. Дзяржава ў Заходняй Афрыцы. 4. Пачціві зварот да мужчыны ў Англіі і ЗША. 5. Рэчыва, якому ўласцівы бляск, коўкасць. 6. Цвёрдая набойка на падэшве. 7. Празаічны нарыс вольнай кампазіцыі. 8. Нямецкі інжынер і вынаходнік. 10. Бліскучы поспех. 12. Еўрапейская сталіца. 14. Зорная сістэма. 15. Сукупнасць жывёл, якія насяляюць дно вадаёмаў. 18. Выпечаны хлеб, пераважна, круглай формы. 19. Украінскі народны танец. 20. Бясколерны газ з едкім непрыемным пахам. 21. Чарцёж зямной паверхні. 27. Струнны музычны інструмент. 28. Возера ў Арменіі. 29. Некультурны, грубы, жорсткі чалавек. 32. Каштоўны камень. 33. Элемент у парным фігурным катанні на каньках. 36. Даўгахвосты папугай. 37. Тытул феадальнай знаці ў некаторых краінах Блізкага Усходу. 39. Настаяцель каталіцкага манастыра. 40. Марскі рак атрада дзесяціногіх.

## Гараскоп 4 – 10 сакавіка



**Авен** (21.03–20.04)

Дома - напружаная сітуацыя. Пакіньце ўсё, як ёсць, не спрабуйце шукаць вінаватых. На рабоце - ўсё як заўсёды. Сур'ёзных фінансавых праблем не чакаецца, але і вялікага прыбытку таксама. Да канца тыдня не рэкамендуецца праяўляць ініцыятыву. Пакуль для гэтага не прыйшоў час. Усялякі неасцярожны ўчынак можа прынесці шмат цяжкавырашальных праблем. Больш увагі свайму здароўю.



**Цялец** (21.04–21.05)

Да канца тыдня фартуна будзе з вамі, і ў канцы тыдня вы зможаце адважыцца на самыя смелыя крокі. Памятайце, што ўдача на вашым баку і ідзіце наперад. У каханні таксама будзе складвацца ўсё добра. Зразумела, на працягу тыдня могуць узнікаць нейкія праблемы, не без таго. У канцы тыдня праявіце ўвагу да блізкіх людзей.



**Блізняты** (22.05–21.06)

На рабоце - не зусім добры час, але не бойцеся: звальненне вам не пагражае. Толькі перашкаджаць вам будуць усе. Таму паспрабуйце знікнуць з поля зроку навакольных. Вучыцеся даравацъ і не нервавацца па дробязях. Здароўе "на мяжы".



**Рак** (22.06–23.07)

Пажадана на гэтым тыдні пачакаць з сур'ёзнымі рашэннямі, таму што нічога з задуманага не ажыццявіцца, а вы згубіце шмат сіл, і настрой будзе сапсаваны. Пастарайцеся пазбягаць спрэчак з калегамі і начальствам. Не дайце ўцягнуць сябе ў авантурную гісторыю.



**Леў** (24.07–23.08)

Магчымае інтэнсіўнае супрацоўніцтва з дзелавымі партнёрамі. Не ўпусціце творчыя і рабочыя магчымасці. Да вас можа паступаць каштоўная і своечасовая інфармацыя. Праявіце свае арганізатарскія здольнасці. У выхадныя выбірайцеся ў госці, на канцэрт, наведайце выстаўку.



**Дзева** (24.08–23.09)

Зоркі засцерагаюць вас ад сумніўных прадпрыемстваў, знаёмстваў і спраў, якія звязаныя з рызыкай для здароўя. Вы атрымаеце дрэнныя звесткі, якія негатыўна характарызуюць кагосьці з вашага асяроддзя. У гэты перыяд вы адчуеце гатоўнасць усприняць і рэалізаваць шмат новых і цікавых ідэй.



**Шалі** (24.09–23.10)

Крытычна разгледзьце намечаныя планы і выпраўце іх у адпаведнасці з рэальнай сітуацыяй. Праявіце шчодрасць, і вам адплацяць той самай манетай. Пачатак сакавіка спрыяльны для паездак, пераездаў і пачатку падарожжаў.



**Скарпіён** (24.10–22.11)

Справы пойдуць на пад'ём. Рэзка ўзрасце ваша актыўнасць, павялічыцца з-за гэтага колькасць кантактаў. Вельмі спрыяльны час для перагляду сваіх паводзінаў у сям'і і на рабоце, прыняцця глабальных рашэнняў. Для халасцякоў магчымае з'яўленне на гарызонце вельмі прыемнага чалавека. Не ўпусціце сваё шчасце.



**Стралец** (23.11–21.12)

Час рэалізацыі любых задуманых вамі планаў. Вельмі добры час захавацца да наступнага тыдня. Невялікія непрыемнасці толькі ў сямейных справах. Непрыемнасці могуць здарыцца з асобамі, звязанымі са структурамі ўлады. Перыяд прынясе новыя сустрэчы, а для многіх — і сапраўднае каханне.



**Казярог** (22.12–20.01)

Непераадольнае жаданне праявіць сябе, паказаць сваю індывідуальнасць, перспектыўнасць, арыгінальнасць. Гэта можа быць галіна работы, асабістых стасункаў або сям'і. Магчымае з'яўленне новых сяброў, новых спраў і новых планаў. Спрыяльна складваюцца падзеі для фінансавых спраў.



**Вадалей** (21.01–19.02)

Грошы і добрае самаадчуванне чакаюць на гэтым тыдні. Астатняе ўсё: работа, адпачынак, сямейны дабрабыт — цалкам залежыць ад вас, вашых учынкаў і ініцыятыў. На гэтым тыдні супрацоўнікаў пераезды і камандзіроўкі. Пазбягайце азартных гульняў — вам не пашанцуе. Магчымае расчараванне ў каханні.



**Рыбы** (20.02–20.03)

Намячаюцца рэзкія перамены ў фінансавай сферы. Калі з пачатку тыдня ў вас былі сур'ёзныя праблемы са старымі запазычанасцямі, то ўжо да канца тыдня ёсць магчымасць выправіць амаль усе памылкі ў грашовых справах. Вельмі высокія шанцы зрабіць задзел на будучае. Калі вы не выкарыстаеце цалкам усе шанцы, то літаральна праз некалькі тыдняў яны знікнуць.

## ЖЫЦЦЁВЫЯ ГІСТОРЫІ

# Хамства

Аднаго разу мне давялося пабываць на некалі перадавым, а цяпер, пасля смерці былога дырэктара, дашчэнту дабітым прадпрыемстве.

Тут, на тэрыторыі завода, на невялікім пагорку, у снежную завею завіхаліся з рыдлёўкамі двое апранутых яўна не па надвор'і мужчын і жанчына ў старой зашмальцаванай фуфайцы, здалёк падобная на суседку маёй сястры па залінейным раёне горада, **Галіну Іванаўну**. Насупраць іх стаяў бухматы, апрануты, як усе заводскія начальнікі, у камуфляжную куртку, з азызлым, быццам пасля ўчарашняга перапою, тварам, мужчына. Побач з ім лямантавала, размахваючы рукамі, нібы бізунамі рассякаючы паветра, сталага выгляду жанчына. Ададзу стаяла другая, маладзейшая, курглатая кабета, штосьці нашэптваючы на вуха свайму начальніку. Яшчэ да канца не ўпэўнены, што там, у гэтым снежным пекле апынулася мая знаёмая, я ўспомніў ветлівасць і гасціннасць гэтай простай беларускай жанчыны. Нялёгкі быў яе жыццёвы лёс. Мроячы стаць настаўніцай беларускай мовы і літаратуры, гэтая палеская дзяўчына, якая не мела матэрыяльнай падтрымкі ад сваіх бацькоў-калгаснікаў, выпрашыла спачатку ўладкавацца на работу ў сталіцы, а затым, на наступны год, паступіць на завочнае аддзяленне педінстытута. Але жыццё распарадзілася інакш. Памер скалечаны вайной бацька, а затым напаткала вялікае каханне, першынец-сын і пераезд на радзіму мужа, у Маладзечна. Відавочна, ёй нічога не заставалася, як набыць рабочую спецыяльнасць, уладкавацца на прадпрыемства, на якім яна працуе і да гэтага часу. Неўзабаве нарадзілася дачка Аксана, якая цяпер увасобіла нязджэйсненую мару маці: стала настаўніцай беларускай мовы і літаратуры ў адной з гарадскіх школ.

Не паспелі падрасці дзеці, як ад сардэчнага прыступу памер любы і клапатлівы муж, і ўвесь сямейны цяжар лёг на яе кволыя жаночыя плечы.

Я ўладкаваў свае справы і выйшаў на вуліцу. Мацнеў мароз, апякаючы твар.

Ізноў, як і раней, корпаліся ў гурбах снегу тыя ж самыя рабочыя, а над імі стаяў той самы бухматы начальнік, лаючыся і настойліва прапануючы ім шукаць іншае месца працы.

Нарэшце, калі ён пасля працяглых мацюкоў, угаманіўся і сышоў у невядомым напрамку, я падняўся на пагорак і ўвачавідку распазнаў знаёмую мне Галіну Іванаўну, якая рухалася насустрач і патанула ад бяссілля ў сумёце снегу. На яе спацелым твары, які не страціў дзявочай прыгажосці, плылі дзве вялікія ручаіны слёз, і, здавалася, не было такіх сіл, каб суняць яе неадольную крыўду.

**Алесь ЗЯНОВІЧ.**

## Крадуць «Фальксвагены»

**МАЛАДЗЕЧНА.** Паміж 19-00 6 лютага і 17-00 7 лютага з гаражнага кааператыва №18 па вуліцы Касманаўтаў укралі аўтамабіль "Фальксваген-Пасат", белага колеру, дзяржнумар 5431 ОАЕ.

21 лютага ў 10-05 з двара дома па вуліцы Міра, 20 укралі "Пасат", але цёмна-сіняга колеру, дзяржнумар АС 98426 (літоўскі транзіт). 24 лютага каля калгаснага рынку з 12-50 па 13-15 укралі аўтамабіль "Фальксваген-Вента" белага колеру, дзяржнумар 6791 ОАВ.

Відавочцаў і тых, хто валодае якой-небудзь інфармацыяй, следства просіць патэлефанаваць у Маладзечне 74838 або звярнуцца ў Маладзечанскі ГРАУС па адрасе: вуліца Галіцкага, 23, кабінет 312, Аляксандр Рудніцкі і Андрэй Сідарэвіч.




**Тэлефонныя коды гарадоў рэгіёна: Маладзечна - 01773, Вілейка - 01771, Смаргонь - 01592, Ашмяны - 01593, Валожын - 01772, Мядзел - 01797, Астравец - 01591, Мінск - 017(2)**

РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА

Заснавальнікі: Аляксандр МАНЦЭВІЧ, Дзмітрый ХАРЫТОНАЎ, Ніна МАНЦЭВІЧ.
Пасведчанне № 227.
Галоўны рэдактар **Аляксандр МАНЦЭВІЧ.**

Інфармацыйна-рэкламнае штотыднёвае выданне для рэгіёна і рэспублікі. Выходзіць па пятніцах. Тыраж **8900 экз.** Індэкс **63212** (індывідуальная падпіска), **63369** (ведамасная падпіска). Падпіска праводзіцца пастаянна ў паштовых аддзяленнях рэспублікі. У розніцу – цана свабодная. **№9 (358) 1.03.2002.** РУП «Друкарня «Перамога», Міністэрства інфармацыі РБ. 222310, Маладзечна, вул. Таўлая, 11. Зак. № 750. Падпісана ў друк у 13.00 28.02.2002



**Наш адрас: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68а.**
**ТЭЛЕФОНЫ/ФАКС: (01773) 6-96-67, 5-38-41, 5-07-99.**
**E-mail: region_news@irex.minsk.by**
**http://regionnews.promedia.minsk.by**



**ПРЫЁМ ДРОБНЫХ АБ'ЯЎ**
**Маладзечна:** Вялікі Гасцінец, 68а. **Тэл. 69667, 53841.**
**Вілейка:** вул. Вадап'янава, 23, капіравальны цэнтр «Парус». **Тэл. 53935, 55284.**
**Смаргонь:** вул. Танкістаў, 8, рэдакцыя «Новой газеты Сморгони». **Тэл. 33077, 34353.**

Разліковы рахунак №3012164030006 у філіяле ААТ «Белзнешэканамбанк» у Маладзечне, код 211, атрымальнік ТАА Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета»